# ЛЕТАПІС

## ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ ШКОЛЫ

### Культурна-Грамадзкі і Літэратурны Месячнік



Сьвіслацкі гурток ТБШ, завешаны Ваўкавыскім Старастай „за бяздзейнасьць“. (Гл. хроніку).

СКЛАДКІ: 3 зл. 60 гр. на год
1 зл. 80 гр. на паўгода
асобны нумар 35 гр.

АДРЭС РЭДАКЦЫІ:
Вільня, Каралеўская вуліца 3-8

№ 1-3 Студзень—Люты—Сакавік 1936 г. Год II

## ЗЬМЕСТ:



---

ЛЕТАПІС
Таварыства Беларускае Школы
КУЛЬТУРНА-ГРАМАДЗКІ і ЛІТЭРАТУРНЫ МЕСЯЧНІК

# ДЭКЛЯРАЦЫЯ

## ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ ШКОЛЫ і БЕЛАРУСКАГА ІНСТЫТУТУ ГАСПАДАРКІ і КУЛЬТУРЫ ў СПРАВЕ ДАМАГАНЬНЯ РОДНАЕ ШКОЛЫ.

Дзеля заняпаду культурна-асьветнай працы ў нашым краі, калі шырыцца цемра ў масах Беларускага Народу і пагражае штораз большая небяспека анальфабэтызму для маладога пакаленьня з прычыны нястачы асьветы ў роднай беларускай мове — беларускія культурна-асьветныя арганізацыі: Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры і Таварыства Беларускае Школы, прыступаюць у гэтым 1936 годзе да акцыі дамаганьня беларускіх школаў на землях Заходняй Беларусі, якая знаходзіцца пад уладай Польшчы.

Мы, Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры і Таварыства Беларускае Школы, злучаныя адзінай воляй і жаданьнем нясьці сьвятло навукі беларускім дзецям у роднай мове, будзем разам з шырокімі беларускімі народнымі масамі супольна дамагацца роднай беларускай школы.

У нашай акцыі мы лічым на падтрыманьне ўсей беларускай інтэлігэнцыі, якая душой цесна зьвязана з беларускімі народнымі масамі.

Мы лічым на салідарную дапамогу ў нашай працы з боку ўсіх беларускіх арганізацыяў, а такжа і тых народаў, якія знаходзяцца ў падобным да нас беларусаў палажэньні і таксама імкнуцца пашырыць асьвету ў сваей роднай мове.

Мы лічым такжа на маральнае падтрыманьне з боку праўдзіва дэмократычных кругоў польскага грамадзянства, кругоў навукі і літэратуры, якія помняць гады свайго змаганьня за родную школу, за асьвету ў роднай мове.

Мы верым, што Беларускі Народ, апіраючыся на прыродным праве да асьветы ў роднай мове, а такжа на існуючых школьных законах, выкажа сваю цьвердую волю ў справе дамаганьня роднае школы і ў працягу гэтага 1936 году падасьць школьным уладам дэклярацыі за сваю родную беларускую школу.

Вільня 26 лютага 1936 году.

БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ ГАСПАДАРКІ І КУЛЬТУРЫ

ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ ШКОЛЫ

# Да Гурткоў, Сябраў і сымпатыкаў Т-ва Беларускае Школы.

Грамадзяне!

Т-ва Беларускае Школы — найслаўнейшая беларуская культурна-асьветная арганізацыя—панясла за апошнія гады вялікія страты. Удары, якія сыпаліся на нас з усіх бакоў, не асталіся бяз сьледу.

Нашая арганізацыя перажывае цяжкія хвіліны: лік дзейных сябраў значна зьменьшыўся. Адныя з іх марнуюцца ў краі, другія за межамі бацькаўшчыны. На кожным кроку спатыкаюцца перашкоды у працы Т-ва і ягоных гурткоў; грошы і маемасьць многіх з іх засэквэстраваная, бібліятэкі паліквідаваныя, народныя дамы пазачыненыя. Няма магчымасьці адчыняць новыя гурткі.

У тых-жа гуртках, якія яшчэ істнуюць, працаваць цяжка, або зусім немагчыма.

Цяжка таксама дабіцца дазволу на ладжаньне беларускіх вечарын, канцэртаў, звычайных сяброўскіх сходаў.

Ад 1929 году ня можа адбыцца Агульны Сход, каб абнавіць Галоўную Управу.

На жаль і сярод сябраў Т-ва знаходзіліся несьвядомыя адзінкі, якія ўносілі дэзорганізацыю ў рады ТБШ. Не зьверталась належнай увагі пры папаўненьні сваіх радоў, дзякуючы чаму мелі магчымасьць пралазіць у нашу арганізацыю адзінкі шкодныя і варожыя беларускаму народна-вызваленчаму руху.

Такі невясёлы стан Т-ва у пятнаццатым годзе яго істнаваньня.

Грамадзяне!

З нашых натугаў, з нашай супольнай працы паўстала і вырасла магутная культурна - асьветная арганізацыя — Т-ва Беларускае Школы.

Цяпер мусім ізноў супольным натугам усіх сьвядомых сябраў адрадзіць яе, стварыць магутнейшае і лічнейшае ТБШ, чым яно было дагэтуль.

Трэба падвоіць свае сілы, падвоіць упорыстасьць і вытрывеласьць, каб пакрыць вялікія страты за апошнія цяжкія гады.

Узнаўляючы беларускую культурна-асьветную працу ад асноў, трэба помніць, што ТБШ, як і дагэтуль, мусіць быць незалежным ад ніякіх палітычных кірункаў.

Дзеля гэтага і на будучыню нельга дапускаць гурткоў да пераварэньня у пляцоўкі палітычных партыяў, бо ТБШ, як арганізацыя, якая мае на мэце працу над падняцьцем культурнага роўня мас, не займаецца ніякай палітычнай дзейнасьцю, не знаходзіцца ў сувязі з ніякай палітычнай партыяй і не арганізуе ніякіх палітычных выступленьняў.

ТБШ згодна з яго мэтаю і статутам і далей будзе вясьці працу над падняцьцем культурнага роўня вёскі і яе нацыянальнай і грамадзкай сьведамасьці.

Каб гэтую працу выканаць, Гурткі, Сябры і сымпатыкі ТБШ павінны:

1) Узнаўляць старыя і арганізаваць новыя гурткі ТБШ, пашыраць сваю арганізацыю, уцягваць ў яе найлепшую перадавую частку вёскі, горада і мястэчка, ахвотную і здольную да культурна-асьветнай працы, зьедныўваць да гэтай працы мясцовую ідэйную інтэлігэнцыю.

2) **Дамагацца роднай беларускай школы, складаць школьныя дэкларацыі, падаваць факты з жыцьця школы ў сваёй ваколіцы.**

3) Адкрываць бібліятэкі-чытальні, народныя дамы, ладзіць рэфэраты, супольнае чытаньне газэт і кніжак.

4) Арганізаваць драматычныя дружыны, хоры, аркестры, ладзіць прадстаўленьні, канцэрты.

5) Ладзіць курсы граматы для непісьменных і малапісьменных, курсы з беларусазнаўства, агульнаадукацыйныя, земляробскія, грамадзкіх навук, коопэрацыі і іншыя.

6) Змагацца з дэмаралізацыяй, весьці самую вострую барацьбу з пьянствам.

7) Стаўляючы перад вачыма вялікія нацыянальныя і агульналюдзкія ідэалы, якія могуць патрабаваць вялікіх ахвяр, — трэба прывучацца да ахвяр малых, якія пад сілу кожнаму, а перадусім да сумленнага выпаўненьня сваіх сяброўскіх абавязкаў у адносінах да сваёй арганізацыі, свайго гуртка і Цэнтральных установаў ТБШ.

8) Дзеля выясьненьня агульнага палажэньня нашай арганізацыі ўсе істнуючыя гурткі павінны прыслаць дакладную справаздачу з сваей дзейнасьці і з мясцовых варункаў культурнай працы. Трэба таксама паведамляць аб закрыцьці гурткоў і пробах іх ажыўленьня.

Вось нашы галоўныя задачы сяньняшняга дня.

Мы мусім помніць, што асьвета і культура ў руках беларускай вёскі і горада, гэта магутнае аружжа ў барацьбе за сваю долю і волю, за далейшы лёс.

Толькі культурны і асьвечаны народ зможа сам будаваць і тварыць сваю будучыню, каваць сваю долю.

Толькі культурны і асьвечаны народ перастане быць паслушнай прыладай у чужых і варожых яму руках.

Дык усе свае сілы, усе здольнасьці для Т-ва Беларускаў Школы на культурна-асьветную працу—фундамант нашай сьветлай будучыні.

**Галоўная Управа Т-ва Беларускае Школы.**

Вільня, Студзень 1936 году.

# Бывалі... Бываеце...

— А ведаеце, дзяўчаткі, у Шэнях на каляды спэктакль будзе.— Так гутарылі дзяўчаты сабраўшыся да Паўлюкоў на кудзельніцы. — Я гаварыла з Сяргеем — казаў, што пойдзе.

— „Не ён адзін. То-ж уся кампанія зьбіраецца ісьці. Я таксама пайду, — кажа Рыгорка. — У мяне там сястра замужам, у яе пераначую.

— Вось табе добра, — завідуюць дзяўчаты, і нейкім сумам на міг пакрыліся іх твары.

Гэткія гутаркі адбываліся на кудзельніцах і зборках хлапцоў па суседніх з Шэнямі вёсках.

---

Другі дзень каляд. У вёсцы рух. Алеся прышла да Олі:

— Ведаеш, Олечка, родненькая, я прышла да цябе. Крыху пасядземо.

— Калі я на хвіліну мушу забегчы да Ліны, — адказала Вольга. — Вельмі мне да яе трэба.

— Пасдяземо, Олечка, у вас. Зараз хлопцы будуць ісьці з чужых сёл. Я вельмі хачу на іх паглядзець..

Алеся высоўвае галаву ў вакно

— А вось ужо ідуць....

— Скуль гэта? пытае Оля.

— З Арабнікаў... О, гэты — глядзі, які харошы. Мне яго папаказвала ў Пружанах Марыся Ходарава.

— А гэты, во, што ідзець у ботах, чорная марынарка? — пытае зноў Оля.

— Ня ведаю, што за ён.

— А вось новая кампанія!.. Якавічы... Не, ня толькі Якавічы — тут здаецца і Парасьляны ёсьць. Той, што каля плота йдзець — з Параслян.

— Мне Марыся нашая казала, — адзываецца Оля — што з тых старон — з Зарэчча, Лазоўкі, Кацёлкаў — таксама хлопцы будуць.

— Ды ты-ж сама сяньня бачыла ў Пружанах, што назнарок засталіся Старавольцы і Сераднянцы, каб на вечар пайсьці, да Шэняў на спэктакль.

Шостая гадзіна. Даўно сьцямнела. У сенцах былой школы на вакне стаіць лямпа. Да касы ні дайсьці, як кажуць, ні даехаць. На ўсё мейсцы білеты праданы, — а тут народу хоць адбаўляй. Будынак школы забіты да адказу. На сцэні рух. Маладыя дзяўчаты і хлапцы ўкладаюць сваю душу ў ролі. Кожны баіцца „папсаваць". Ставяць „Апошнае спатканьне". Высоўваецца з-за краты галава. На змучаных тварах густа зьбіўшайся публікі там-сям сплываюць сьлёзы.

---

Пружана. Ставім „Змагары за ідэю". Саля „Дому Сірот Жыдоўскіх" запоўнена. Сядзяць адзін у другога на каленях. Уваходныя дзьверы бяруцца штурмам. Увайсьці праз парадныя дзьверы нельга, бо там калышацца мора тых, якія на спэктакль папасьці не маглі. Паднімаецца заслона. Залягае мёртвая цішыня...

Кончыўся апошні акт. Да сцэны падыходзіць бабулька:

— Даруйце мне, дзеткі, але я плачу. Сьмяяцца трэба — радасьць нейкая, а сьлёзы самі льлюцца.

Падыходзяць мяшчане, жыды — складаюць гратуляцыі.

Гэтак у нас было ў 1928—1932 годзе. А потым... Потым ТБШ наша было зачынена.

Бывалі...

---

Год пазней. „Тэатр людовы“ ў Пружанах. Саля кіна „Эра“. На салі трохі вучняў, трохі ужэнднікаў, трохі мейсц пустых. Кіраўнік тэатру выходзіць наперад заслоны:

— Proszę państwa! Zawdzięczając panu staroście, w Prużanie powstał „Teatr Ludowy“, by szerzyć kulturę na zacofanych Kresach. Otrzymaliśmy od pana Starosty 600 zł. za co na tym miejscu składam w imieniu swojem i swoich kolegów panu Staroście podziękowanie... і г. д

Спатыкаю знаёмага вучыцеля. Разгаварыліся. Працуе ў Пружанах. На спэктакль прышоў, бо уважае, што на рэпрэзэнтацыйных урачыстасьцях трэба бываць. Становіцца недалёка ўваходу і ветліва раскланіваецца з мейсцовымі шышкамі. Уваходзіць стары надзоршчык з турмы:

— Przysłali bilety do więzienia, mnie wypadła kolejka pójść, — тлумачыцца няведама перад кім.

Кончыўся спэктакль. На тварох публікі соннасць, апатыя. Выходжу і я разам. Разьбегліся яны, хто куды па сваіх норах. А я адзін разцінаю цемру у 12 гадзін ночы, — іду да свае вёскі за пяць кілямэтраў. Сьпіць яна. Толькі дзе-не-дзе па гумнам стукаюць цапы.

Іван ды Сьцяпан ждуць на свой тэатр, дзе яны могуць ня толькі пасьмеяцца, але і паплакаць ад радасьці...

Бываеце...

*П. З.*

---

## Б О Р.

Глыбей і глыбей уразаўся тапор у карэньні сасонкі.
Сыпаўся сьнег, як алмазы з зялёнай чупрыны.
Рэха далёка нясклося, адбітае звонка;
З шумам зялёным далей яго бор перакінуў.

І зашапталі вяковыя сосны старыя,
Пэўна сасонку моцна яны шкадавалі
і ствалы, мохам пакрытыя, медна-сівыя,
сьнегам-алмазам убраныя,—доўга яны калыхалі.

Думалі радзілі доўга сівыя галовы...
І толькі вецяр вясну у гушчар ім закінуў, —
маладняк весяла зазелянеўся сасновы
па расцярэбляных пасеках, па каляінах.

Ізноў, як калісьці шумеў бор—за дальным абрывам.
Схаваны ад бур у цяні маладняк падымаўся.
Ноччу і днём шаптаў з ім стары бор шчасьліва,—
казак шмат ведаў—сьмехам зялёным сьмяяўся.

МАКСІМ ТАНК.

# Пад Новы Год.

I.

Хутка бягуць матаровыя вагоны.

На кожным прыстанку выходзяць пасажыры, пераважна салдаты, якія едуць на „урлёп“.

Чым далей ад Вільні, тым больш мяняецца пагода: каля Вільні ўзгоркі чорныя, далей на поўнач усе белыя ад сьнегу.

На паўстанку Крывічы чакае фурманка. Спатыкае хлапец, сябра Т-ва Беларускае Школы з в. Задубеньне. Пазнаю адразу, хоць ніколі і не былі знаёмыя. Жорсткае жыцьцё выраблае на вёсцы асобны тып ідэйнай моладзі, якая ў самой постаці, на твары, у вачох мае нешта сваё, блізкае беларускае: ціхі і спакойны, але цьвёрды пагляд ідэаліста, рашучасьць і адвагу змагара...

Бягуць санкі. Пагода цёплая. Плыве гутарка, як між самымі блізкімі і даўно знаёмымі.

Прыяжджаем. Спатыкаюць ветліва. У хаце ўжо ёсьць, прыбыўшыя за 10 клм., хаця да пачатку лекцыі добрых тры, чатыры гадзіны.

Вечар. З боку разьбітых на хутары вёсак, па дарогах і сьцежках плывуць новыя і новыя цёмныя сілуэты. Прайшло некалькі хвілін, хата адна і другая поўная. Адказныя асобы просяць распачынаць.

— Заўтра Новы Год. Праз некалькі гадзін мы разьвітаемся са Старым. Усё паганае, прыкрае, цяжкае няхай згіне. Няхай з Новым Годам родзіцца новае, сьветлае, лепшае. Але гэтае лепшае само ня прыдзе, трэба навучыцца браць яго, здабываць уласнымі рукамі...

Хочацца на парозе Новага Году прывітаць іх усіх сабраўшыхся найлепшым, прыгожым словам, ад сэрца. Трудна перадаць гэтыя адчуваньні, але словы падаюць сярод глыбокай цішы і ствараюць атмасфэру інтымнай блізасьці.

Так пачынаецца лекцыя, якую слухаюць з цікавасьцяй, уважна. Толькі ў адным месцы недзе з лаўкі падае рэпліка зьдзіўленьня: — „Зусім, як у нас!“... Кіраўніцтва суровым паглядам спыняе, і далей зноў ціша.

Праз гадзіну перарыў. Кроў мацней стучыць у віскох, адчуваецца брак паветра.

У такім-жа паднятым настроі праходзіць і другая палова лекцыі, за якою з неаслабнай цікавасьцю сочыць сялянская аўдыторыя.

Усе разыйшліся.

Адпачыўшы, прыступаем да запісу народных песьняў. Прыходзіцца карыстацца момантам, каб якнайболей мэлёдыяў перавясьці на ноты.

За такою працаю спатыкаем Новы Год.

На раніцу едзем да Будслава. На гэты раз маім спадарожнікам стары працаўнік на беларускай ніве ў Вілейскім павеце М. Х., які сваіх і чужых дзяцей вучыць беларускай грамаце. Ён ідэйны кіраўнік моладзі, якая працуе ў гуртку.

У гутарцы востра выступаюць сацыяльна-грамадзкія моманты: цяжка ўсім, солі ня купляюць, карыстаюцца чырвонаю, якая прадаецца для жывёлы... Была ў суседняй вёсцы ўтраквістычная школа, цяпер сталася — польскай... Вучыцелька ў іхняй вёсцы, ня карыстаецца ніякаю пашанаю.

— Як-жа яна вучыць у школе?

— Якая сама, так і вучыць. Ненавідзіць беларусаў. За тое і дзеці кончыўшы школу астаюцца зноў няграматнымі.

II.

Будслаў. Стары беларускі назоў — Буда. Каля мястэчка за ракою в. Палесьсе, дзе сядзіба Будслаўскага гуртка Беларускага Інстытуту Гасп. і Культуры, які даведаўшысь аб лекцыі ладжанай гуртком ТБШ у в. Задубеньне, запрасіў прачытаць яе на Новы Год у Будславе.

Затрымаліся ў гуртку. У сябраў настрой устрывожаны, — ставяцца вялікія перашкоды, каб не адбылася лекцыя, хаця-ж для забароны падставы ніякай. Гэтыя перашкоды, не асталіся бяз сьледу. Былі такія, што пачучьцё страху перамагала імкненьне да сваёй культуры.

Перад самым пачаткам лекцыі ў салі былой беларускай гімназіі (цяпер там гміна), паліцэйскі камандант сурова пытаецца маладога хлапца:

— Колькі маеш лет?

— Восемнаццаць.

— Вылегітымавацца можаш?

Хлапец моўчкі адышоўся ў другі бок. Праслухаць беларускую лекцыю трэба мець мэтрыку або пашпарт.

— На што гэта патрэбна? — зьдіўлена пытаюся.

Адказ быў нявыразны, нешта аб школьным веку. Але ўсё-ж такі маральная перамога поўная за гуртком — лекцыя адбылася.

Пасьля лекцыі пры дапамозе беларускіх студэнтаў і сябраў гуртка Інстытуту была арганізавана запісь беларускіх народных песьняў. А ў гэты час моладзь сабралася ў гуртку і прыслала свайго кіраўніка прасіць нас праслухаць іхні сьпеў.

Доўга чакалі нас маладыя пяюны, аж ўрэшце пайшлі да суседа на вечарынку. Калі-ж даведаліся, што мы ўжо ў гуртку, кінулі вечарынку і прышлі да нас са сваімі песьнямі. Спачатку нясьмела, сьціха, потым сьмялей і званчей ліецца песьня. Гэты сьпеў ня мае ньюансаў штучнай песьні, або скавытаньня гарадзкіх тангаў, – ён увесь шчыры і просты, сьвежы і здоровы, як сама навакольная прырода. Якая сіла, якія сьвежыя натуральныя, чыстыя галасы! Кожны бяз кіраўніка ведае сваё мейсца ў хоры. Складаў гэтую паэзыю нейкі нязнаны паэт і даў музыку нязнаны кампазытар. Гэтая песьня ня мае той пакоры, якую спатыкаеш у абрадавай народнай песьні. Гэтая песьня бунтарная і бурлівая, як сама моладзь. Там, дзе песьня кажа аб свабодзе, дзе пяе аб грозных навальніцах, там ярчэй гараць маладыя вочы, там глыбей уздыхаюць грудзі. Гэтая песьня радзілася за працаю, калі нагружаліся і разгружаліся таварныя вагоны на станцыі Будслаў...

---

Цёмная ночка. Сьвецяць зоры. Марозіць.

На санках студэнты, кіраўнік гуртка, сябры.

Па дарозе цікавыя рэчы апавядаюць з гісторыі Будслаўскага гуртка. Некаму забалела, што гурток называецца Будслаўскім. Склікалі сход мяшчан, якія мелі ўхваліць пастанову, каб адабраць ад беларускага гуртка імя слаўнай Буды. .. Падпісалася на тысячу жыхароў мястэчка... каля дзесяці асоб, дый тыя зьнялі свае падпісы: пабаяліся, што беларусы некалі запішуць іх на чорную дошку. Але гурток і надалей быў некаму сольлю ў вачох. На гэты раз падрадчыкі на казённых пастаўках дамагаліся ў солтыса в. Палесьсе, как склікаў сход вёскі, на якім была пастаўлена на парадак дня апінія

гуртка: нелёяльнасьць да Польскай Дзяржавы і дэмаралізацыя на моладзь. Нелёяльнасьць, быццам, палягала на тым, што ў вёсцы нехта не заплаціў падаткаў, дэмаралізацыя — на тым, што моладзь ходзіць у беларускую бібліятэку, чытае кніжкі, ладзіць спэктаклі. У абарону беларускай справы і добрага імя беларускай арганізацыі выступае кіраўнік гуртка Ін-ту Балеслаў Бабарыка.

— Вы „лёяльныя“ хочаце выселіць наш гурток з вёскі. Але-ж мы аплацілі павіннасьці з цяжкае працы, а вы — зарабілі шалёныя грошы на казённых падрадах і скрылі свае даходы, каб не плаціць падаткаў ад нажывы. Вось якая ваша „лёяльнасьць“. А зноў дэмаралізацыя? Хто з вас бачыў нас пьянымі, хто пачуў благое слова, каму мы зрабілі крыўду? Вам не падабаецца, што ў мяне ў хаце беларуская бібліятэка, — але чаму вы ня зьвернеце ўвагі, што гэтыя самыя паны, якія проці нашае народнае ідэі выступаюць, на вачох вашых-жа дзяцей управляюць дамы распусты — чаму вы не глянеце на гэта? Хто з нас дэмаралізуе?.

Гэта была не абарона, гэта была сьмелая атака. Праціўнік маральна зьнішчаны. Сьціснутыя кулакі пасунуліся ў бок ворагаў Беларускага Народу. Ніводнага голасу проці бібліятэкі. Перамога поўная. Аўтарытэт гуртка і яго кіраўніцтва пасьля гэтага асабліва ўзмоцніўся. Бібліятэка працьвітае, расьце і ўтрымліваецца ў дасканальным парадку...

---

Сьцюдзёны вецер пачаў залазіць у рукавы, за сьпіну. Із-за горкі халодную імглу прарзэў сьвет. Гэта была станцыя Будслаў, дзе таксама, як і ў мястэчку пануе беларуская мова.

Мілая моладзь шчыра, сардэчна разьвіталася ўжо ў цягніку...

Рытмічна тахтаюць вагоны назад у Вільню.

Культурная здабыча: 50 новых беларускіх народных мэлёдыяў, прачытаныя лекцыі і глыбокія ўражаньні.

*Р. Ш.*

---

* * *

Закувала шэрая зязюля,
Закувала першы раз.
Ў сэрцы дні юнацкія ўваскрослі,
Дні — чаму ня шкода вас?

Ці таму, што доляю прыбіты,
Гэты час пакінуў па сабе
Шмат трывог душою пераржытых,
Шмат пакут ў жыцьцёвай барацьбе?

Зьніклі вы, як сонца за гарою,
Як матыль мільгнуўшы над зямлёй, —
І вясна з чароўным цьветабоем
Была радасьцяй — ды толькі не маёй...

Дык бывай, бывай!.. Цябе я не шкадую,
Няма мейсца ў стомленых грудзёх, —
Зару новую ў душы сваёй гадую
У вянку жыцьцёвых перамог.

М. ВАСІЛЁК.

# Першы спэктакль у Рынічах.

*(Абразок з жыцьця).*

Цямнела. Мы ехалі па дарозе, наабапал якое стаялі дрэвы, згінаючы галіны пад цяжарам выпаўшага зранку сьнегу. На небе дзе ні дзе заблішчэлі зоркі, а на ўсходзе выплываў чырвоны месяц.

— Але-ж і будзе, дзеткі, заўтра мароз — адгукнуўся стары селянін, які вёз нас на станцыю — не здарма-ж сяньня наш певень, як пачаў пяяць зранку, то ледзь пад абед спыніўся.

Мы ўсе засьмяяліся з гэтае ўвагі старога.

Апошні аднак не зьвярнуў на наш сьмех увагі, а толькі шпарчэй пагнаў свайго сівака.

Нарэшце заблішчэлі вагні невялічкае станцыі Б., якая мясьцілася на палянцы сярод хваёвага лесу. Мы разьвіталіся з дзедам і праз некалькі хвілін апынуліся ў цягніку, які разсыпаючы па сьнезе снапы іскраў, памчаў нас у даль. Праз гадзіну мы застанавіліся на станцыі В., дзе нас спаткалі два калегі.

— Што чуваць, ці будзем сяньня ладзіць спэктакль, а каторай гадзіне? — пасыпаліся пытаньні, скіраваныя да апошніх.

— Сядайце лепш на сані, а тагды аб усім даведаецеся — адказаў даволі сярдзітым голасам Міхась.

— Стараста даў дазвол на ўсе паданыя намі п'есы, але ў апошнюю хвіліну інспэктар забараніў ладзіць спэктакль у школьным будынку нашага мястэчка — пачулі мы адказ на свае запытаньні. Усе раптам спахмурнелі і ехалі некалькі гоняў моўчкі.

— Эй, ды кіньце, сябры. сумаваць — адазваўся адзін з едучых — нічога, не дазволілі тут, то заўтра зладзім спэктакль у Рынічах, быць ня можа, каб ізноў пачалі нам ставіць перашкоды. Ці-ж нам маладым падыходзіць зразу рукі апускаць перад першаю няўдачаю!?

— Праўда, праўда, чаго гэта мы так раптам засумавалі! — загаманілі з усіх бакоў павесялеўшыя сябры.

— Няхай жыве жыцьцёвы оптымізм' — раптам крыкнуў Алесь і з бадзёрай усьмешкай акінуў поглядам едучых.

— А, цяпер і ты загаманіў, а дзе-ж быў дагэтуль, пане філёзофе? — засьмяяліся сябры.

Мы спыніліся ў невялікай вёсцы, дзе і засталіся начаваць. Назаўтра раніцаю нанялі дзьве хурманкі і паехалі ў суседнюю вёску, Рынічы. Праўду прарочыў учора дзедаў певень, бо мароз даваў аб сабе знаць, а сьнег так і скрыпеў пад палазамі.

— А дзе-ж сябра Стасюк? — спытаўся Алесь.

— Ён, браце, ледзь пачало сьвітаць, то і паляцеў, праўда пяшэчкам у Рынічы, каб пачаць там прыгатаваньне да вечарыны — адказаў сябра Стасюка, Лявон.

— Зьмерзне, небарака, гэта-ж такі мароз! — пачуліся спагадлівыя галасы дзяўчат.

— Нічога, у яго кроў ня лёд, — зойдзе! — засьмяяліся хлапцы і гэтак ехалі далей. Ужо недалёка вёскі мы ўсе засьпявалі „Ад веку...“ а рэха падхапіла гукі нашага магутнага гымну і панясло іх па бязмежным абшарам, наабапал ляжачага поля

— Хоць узімку ў нас едучы, ці ідучы ніхто не сьпявае, але вам нейк гэта падыходзіць - заўважылі вязучыя нас сяляне. Паміма ўвагі мы пасьля гымну пачалі пяяць і іншыя песьні, аж пакуль паказаліся першыя рыніцкія хаты.

Мы ўехалі ў вуліцу.

— Тэатр едзе, тэатр едзе! — пачулася з усіх бакоў.

Праз некалькі хвілін за намі бегла грамадка вясковых дзяцей, а ў вокны пазіралі старэйшыя сяляне. Нам зрабілася вельмі весела, чуючы такія прывітаньні. Усе ажывіліся і пачалі засыпаць адзін другога рознымі запытаньнямі і ўвагамі.

— Глядзеце, гэта-ж і Стасюк з Янкам коцяць нам на спатканьне — адазвалася зоркая Ганулька.

Праз некалькі хвілін мы ўжо віталіся з сябрамі.

— Але-ж і ў вясёлым вы настроі, аж заздрасьць бярэ—заўважыў Стасюк.

— Мушу аднак сказаць вам даволі сумную навіну— і тут кіраўнік забараніў ладзіць спэкталь у школьнай салі.

— Не дае, ня трэба,— зладзім і ў вясковай хаце — пачуліся станоўчыя галасы сяброў. Так і зрабілі. За дзесяць залатовак нанялі нядаўна пабудаваную хату і праз некалькі хвілін закіпела работа. Адныя насілі дошкі і майстравалі сцэну, другія пайшлі ў кусты за ёлкамі, рэшта зьбірала і парадкавала патрэбную на сцэну вопратку. Трэба зазначыць, што ў ва ўсёй гэтай працы нам дзейна памагалі рыніцкія хлапцы і дзяўчата, а нават і старэйшыя сяляне. Праз дзьве гадзіны праца была скончана. Усё выглядала вельмі прымітыўна: сцэна была маленькая, мела адныя толькі дзьверы, глядзельнікам-жа парабілі лавы з дошак, абапёртых на драўляных калодачках. Хату-салю, без падлогі асьвятляла невялічкая лямпа. Хутка пачалі зьбірацца сяляне і праз паўгадзіны хата была паўнюсенька. Нават на печы знайшлі сабе месца чалавек сем, адкуль, як добрыя паны ў лёжы, задуменна-паважна пазіралі на таўканіну іншых

— Дзядзенькі, дзядзенькі, пусьцеця і нас паглядзець!—загаманілі за вакном галасы дзяцей.

Апошніх ледзь удалося ўвясьці ў хату.

Вясковыя музыкі, пасеўшы паважна навокала печы, з усіх сіл рэзалі вясковую польку.

Адзін-жа з іх умудрыўся далікатненька выводзіць на сваім інструмэнце такія сьлязьліва-сумныя мэлёдыі, што мімаволі ўспомнілася музыка з некаторых кінаў у Вільні. Наш вясёлы Стасюк так і рваўся скакаць у двухмэтровай бакоўцы, адгароджанай дзяружкаю, як пакой для грыміраваньня нашых аматараў-артыстых.

— Кінь, Стасюк, свае скокі, а то паб'еш ліхтар — закрычалі Алесь з Міхасём.

— А браточкі-ж вы мае, дый як тут утрымацца ад скокаў, калі навокала столькі вясёлых твараў, а музыка так хораша грае -- адказаў сьмяючыся Стасюк і пачаў грыміравацца

Пасьля адыграньня дзьвёх п'есаў: „На вёсцы“ і “Суд“, пачаўся рад дэклямацыяў вершаў Коласа, Купалы, Цёткі і інш. Захопленьне глядзельнікаў ня мела межаў. Дый нічога дзіўнага: Рынічы першы раз бачылі спэктакль у сваёй роднай мове.

— Гэта-ж усё па нашаму, гэтак зразумела і хораша! — чуліся галасы сялян з усіх бакоў.

— Яшчэ вершаў, яшчэ хоць два — прасілі яны, заглядваючы ў бакоўку. Мы з радасьцю прыглядаліся да іх, так дарагіх нам твараў, на якіх бязупынная праца і нядоля палажылі свае прадчасныя сьляды.

— Пайду прадэклямую яшчэ верш: „Хачу сказаць я вам браточкі, што калісь будзе на зямлі“... а можа і спадабаецца — адазваўся

ахвочы да вершаў Казюк і падставіўшы калодку паважна узьлез на сцэну. На заканчэньне мы ўсе выйшлі і прапялі „Ад веку..“

Пасьля спэктаклю ўсе пайшлі ў другі канец вёскі, дзе папрасілі ў аднаго гаспадара дазволу паскакаць у яго хаце. Мы таксама, ня гледзячы на зморанасьць, пайшлі разам. Спаткалі нас вельмі ветліва і зараз-жа пачалі прасіць паскакаць Лявоніху. Мы згадзіліся, але пасьля толькі і чулі: „Паскачэцца яшчэ, навучэцца і нас“. Пасьля Лявоніхі сьпявалі песьні, „Ці сьвет, ці сьвітае...“, „Мы выйдзем шчыльнымі радамі“, „Зорка Вэнэра...“ і інш, а таксама гутарылі з хлапцамі і дзяўчатамі. А першай гадзіне ўночы мы падзякавалі за гасьцінnасьць і прыветлівасьць і пачалі разьвітвацца.

— Прыяжджайце на Вялікдзень, не забывайце няс — прасілі хлапцы і дзяўчаты, праводзячы нас у другі канец вёскі, да хаты аднаго з сяброў, дзе мы засталіся начаваць, каб назаўтра ледзь золак ехаць далей.

З сумам пакідалі мы прыветлівыя твары нашых вяскоўцаў. Ідучы па вуліцы, так і хацелася крыкнуць: „Няхай жыве беларуская, сярмяжная вёска!“

*М. М.*

---

М. ЯВАР.

## ЦІ ТЫ ПОМНІШ?..

*(Пасьмертны верш)*

Ці ты помніш, ці не, дарагая мая,
Сьветлы, мілы той час маладою вясной,
Калі поўныя веры, юнацтва, агня
Першы раз мы спаткаліс з табой?

Ад пракляцьцяў і мук, ад жыцьця кайданоў
Мы хацелі на хвілю ўцячы, паляцець...
За цяжкое жыцьцё хоць сьвятую любоў
Мы хацелі нагродаю мець.

Жыць, любіць і цярпець за сябе і другіх,
Па жыцьцёвай сьцяжынячцы разам ісьці..
Найвялікшае шчасьце на сьвеці ўдваіх
Мы хацелі ў каханьні знайсьці.

І найшлі... О, ці помніш, птушына мая,
Як шчасьліва ляцелі хвіліны для нас?
Як сьмяяліся шчасьцейкам вусны што дня,
Як пяяла душа кажды час?

Але ўсё праляцела... ўсё зьнікла на век...
Як туман... Час найлепшы прайшоў, як ня быў...
О, чаму-ж той каханьня сьвяты аганёк
Нас на векі тады не спаліў?!

6 лютага 1930 году.

# ЗА РОДНУЮ ШКОЛУ!

# АДОЗВА

## Да Беларускага Народу.

## ГРАМАДЗЯНЕ БЕЛАРУСЫ!

Цьвёрда і настойліва ідзе Беларускі народ да лепшае долі. Ня гледзячы на вялікія перашкоды, якія ляглі на дарозе, Ён будуе новае жыцьцё. Думка вызваленьня, думка жыць так, як і ўсе культурные народы жывуць, глыбака закаранілася ў народныя масы. Горад і вёска, сяляне і работнікі — ўсе сьведамыя Беларусы дружна ўзяліся да працы на роднай ніве.

Але каб збудаваць лепшую будучыню трэба здабыць сваю родную беларускую школу. Гэта разумеюць беларусы і ўжо ад многіх гадоў дамагаюцца сваей роднай школы.

## ГРАМАДЗЯНЕ БЕЛАРУСЫ!

Патрэбу вучэньня разумее кожны. Выпраўляць дзяцей у школу прыходзіцца ня толькі дзеля школьнага прымусу, але і дзеля таго, каб дзеці навучыліся чытаць і пісаць і каб здабылі патрэбную асьвету, бо цяжка цяпер жыць чалавеку без асьветы. Школа ў нашыя часы ёсьць неабходная, як дзеля духовых патрэб чалавека, так дзеля цяжкага штодзеннага змаганьня за кавалак хлеба. Чалавек без асьветы ў нашыя часы можа быць толькі слугой-нявольнікам, якога слабасьць кожны выкарыстоўвае. У жыцьці-ж грамадзкім бяз добрай школы ня можа быць поўнага нацыянальнага і культурнага адраджэньня, ня можа быць і матарыяльнага дабрабыту.

Сягоньня землі беларускія пакрыты густой сеткай польскіх школаў. Навучаньне ў чужой мове затрымлівае нармальнае разьвіцьцё дзіцяці і прывучае цаніць і шанаваць больш чужое, чым сваё роднае.

БЕЛАРУСЫ! Наш ратунак — гэта наша родная беларуская школа. Гэта наш фундамэнт, на якім мы павінны будаваць новае лепшае жыцьцё! Цяжка нам сваей школы дабіцца, але ўсё-ж такі мы маем сьвяты абавязак усімі сіламі дамагацца, каб закон, які прызнае беларускую школу — быў праведзены ў жыцьцё. На падставе школьнага закону з дн. 31.VII.1924 г. усе Беларусы ў Віленскім, Наваградзкім, Палескім і часьці Беластоцкаго ваяводзтваў маюць права дамагацца школ беларускіх на кошт казны. Патрэбныя толькі падпісы бацькоў на адумысловых дэклярацыях з дамаганьнем беларускае щколы.

Бацькі Беларусы! Калі вы хочаце каб дзеці вашыя не выракаліся сваіх сярмяжных бацькоў, любілі мазольную працу, сваю мову, Бацьк-

каўшчыну і ей служылі, калі хочаце вызваленьня нашага народу з путаў цемры і нядолі — дык **неадкладна дамагайцеся сваей беларускай школы.**

Беларуская школа ёсьць мілейшая і бліжэйшая да душы нашых дзетак.

Навука ў роднай беларускай мове больш зразумелая для нашых дзетак, як у чужой мове.

Беларуская школа дае лепшую падгатоўку да жыцьця: яна ня ломіць душы дзіцяці, яна ўзбагачае розум новымі паняцьцямі і гэтым памагае яго разьвіцьцю. Беларуская школа ня толькі вучыць у роднай мове, але навучае і іншых моваў, якія патрэбны ў жыцьці, — словам, родная школа дае беларускаму дзіцяці ўсё, што будзе яму патрэбным у далейшым жыцьцёвым змаганьні.

**Дык для дабра нашых маладых пакаленьняў, для дабра ўсяго нашага Народу, кожны Беларус-бацька ці апякун дзяцей мусіць выпаўніць свой абавязак і ў гэтым 1936 годзе павінен падпісаць і падаць школьным уладам дэкларацыю на сваю родную беларускую школу!**

Па дэкларацыі, фармуляры і інструкцыі зварочвайцеся на адрас: Школьны Сэкрэтар'ят, Вільня, Каралеўская 3—8.

**Вільня, 29 лютага 1936 году.**

**БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ ГАСПАДАРКІ і КУЛЬТУРЫ** **ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ ШКОЛЫ**

# ШЛЯХАМ АСЬВЕТЫ.

Мы жывём у эпоху нязвычайнага разьвіцьця і пашырэньня навукі, тэхнікі і прагрэсу. Але яны — удзел толькі кутьтурных народаў, пераважна маючых самастойнае, дзяржаўнае існаваньне. Народы паняволеныя ці падуладныя звычайна адсоўваюцца ад карыстаньня агульналюдзкім скарбам культуры, хоць-бы яны мелі сваю нацыянальную, нават высокую культуру. Такі ўжо „закон" гісторыі. Баючыся іхняе культурнае ці палітычнае перавагі, уладары не даюць ім быць раўнапраўнымі сябрамі ў сям'і культурных народаў. З другога боку, падуладныя народы заусёды адчуваюць пагрозу і для свайго нацыянальнага існаваньня. Хочучы асыміляваць ці зьліць іх з сабою культурна і палітычна, пануючая нацыя прымушае іх — ўсёю сыстэмаю дзяржаўных суадносінаў і парадкаў — паступова выракацца самае падставы ўсялякага культурнага жыцьця, т. е. сваей мовы, свайго быту, усяго свайго нацыянальнага багацьця. Бо толькі на нацыя-

нальным грунце магчыма свабоднае, шырокае культурнае разьвіцьцё. Па-за нацыянальным жыцьцём ня можа быць паўнаты прысваеньня і росквіту культуры. Калі чэхі падчас 30-гадовае вайны (у першай палове XVII в.), вельмі падтачыўшай іх духоўныя і матэрыяльныя сілы, згубілі сваю палітычную самастойнасьць, пачаўся занялад чэскай культуры, вельмі высокай на той час; нямецкая культура пачала выцішчаць усе праявы нацыянальнага жыцьця чэхаў; апошнія трацілі і свой агульны культурны здабытак і сваё нацыянальнае аблічча; самая мова чэская з літэратурнай, дзяржаўнай, спусьцілася да роўня простае, сялянскае гутаркі, а сярод „вышэйшых" станаў грамадзянства, моцна трымаўшыхся за свае прывілеі, і зусім пачала забывацца. Так цягнулася, пакуль не пачалося чэскае нацыянальнае адраджэньне (у першай палове XIX ст) — дзякуючы захаваньню ў падставовых слаёх народу нацыянальнае сьведамасьці, нацыянальнага пачуцьця.

Што спробы асыміляцыі падуладных народаў і накідваньня ім чужой культуры напатыкаюцца заўсёды на рашучы адпор, або пратэст народу—гэта другі няўхільны „закон" гісторыі. тым балей, што палітычная перавага якога-колечы народу не заўсёды ёсьць азнакай праўдзівай вышшасьці ягонае культуры (туркі і заваёваная імі Візантыя ў сярэдзіне XV ст.). Пратэст гэты з бегам часу пераходзіць у адкрытае, штодзеннае, можа нават мала прыкметнае змаганьне „за сваё мейсца на жыцьцёвым піру" і, пры спрыяючых палітычных умовах, можа прынесьці поўнае вызваленьне ці адраджэньне народу. Так змагаліся за сваю свабоду і культуру ў працягу доўгага часу палякі пасьля разьдзелаў Польшчы, пакуль не дапялі сваей мэты; так змагалася багатая Чэхія пад панаваньнем Габсбургаў, пакуль не вярнула ранейшага свайго незалежнага становішча ў Эўропе; так вякамі змагалася, не шкадуючы ахвяраў, невялічкая, але вольналюбная Ірляндыя, у нашы дні адваяваўшая ад Англіі правы нацыянальнай і палітычнай самастойнасьці; так на нашых вачох змагаюцца цяпер харваты ў Югаславіі, славакі і іншыя славяне ў Чэхіі, хутка забыўшай уласнае паняволеньне, флямандцы ў Бэльгіі, каталёнцы ў Гішпаніі, украінцы ў Польшчы і інш.

Гісторыя ня прызначыла вечнае панаваньне для адных народаў, вечнае паняваленьне для другіх, або каб адныя карысталіся з усяго багацьця духоўнай і матэрыяльнай культуры свайго веку, а другія служылі толькі „ўгнаеньнем" для чужой культуры. Кожны жывы, здаровы, хоць і паняволены народ мае права і павінен усім напружаньнем сваіх духоўных сілаў дабівацца выйсьці на самастойную, шырокую, культурную дарогу жыцьця, павінен прымаць удзел у будаўніцтве і ўзбагачэньні агульна-людзкае культуры. Для аднаго народу гэты час настае раней, для другога пазьней, але для кожнага гэты час у сваю пару прыходзіць, *калі толькі захавалася воля да жыцьця, воля да адраджэньня*. Набліжыць, прысьпяшыць гэты час — ёсьць нацыянальны доўг кожнага пакаленьня.

---

У сьвятле пададзеных думак паглядзімо цяпер, ці мае які культурны здабытак наша Беларусь, якую спадчыну пакінула ёй гісторыя, ці ёсьць у беларусаў воля да жыцьця, ці можа Беларусь выйсьці, з працягам часу, на сваю дарогу?

Гістарычны лёс ня прызначыў нам здаўна заняць адпаведнае мейсца між іншымі культурнымі народамі Эўропы, хоць Беларусь

і мае блізу 1000-гадовую гісторыю. Была пара, Калі Беларусь (XV — XVI ст. ст.) стаяла — як на той час на вельмі высокім роўні культурнага разьвіцьця. Але гэтая эпоха ня прычынілася да ўзмацаваньня дзяржаўнага становішча Беларусі, па тагачаснаму — проста „Русі“, і ў хуткім часе, дзякуючы непамысным гістарычным умовам, перадусім географічнаму палажэньню Беларусі на „ростані ўсходня-заходніх дарог“, зьмянілась поўным заняпадам беларускае нацыянальнае культуры, які цягнуўся прыблізна да паловы XIX ст. Культурна мы былі амаль не на скананьні. Ужо ня раз ворагі нашыя спраўлялі па нас хаўтуры.

„У старыну Беларус непадданы
Гаспадарыў, быў сам над сабой
І далёка у сьвеце быў знаны
За літоўскай і ляшскай зямлёй.

Але час прамінуў і на народ нядоля
Як бы камень звалілась, —
Беларуская слава і воля
Адыйшла, здцьвіла, закацілась“.

(Я. КОЛАС. „Ты, мой брат“.).

Аднак, „не загінуў край наш родны“, і Беларусь паволі пачынае абуджацца ад векавога сну, знахадзіць самую сябе, узбагачаць свой культурны скарб, больш і больш замацоўваць „наперекор стихіям“ свае правы на лепшае жыцьцё, як вось нядаўна, пасьля вякоў змаганьня, знайшлі сваё права нашыя бліжэйшыя суседзі: палякі, чэхі, ліцьвіны, латышы, эстонцы і др. Чаму-ж бы Беларусь станавіла вынятак між імі? Ужо адно тое, што Беларусь не загінула ў найбольш цяжкім для яе нацыянальнага існаваньня XVII - XIX стагодзьдзях, не загубілася між сваімі больш сільнымі суседзямі пад іхным панаваньнем (палякі, расейцы), сьведчыць, што беларусы — народ жывы, здаровы, жыцьцяздольны, які выйдзе на сваю дарогу, „займе свой пачэсны пасад між народамі“.

Якім-жа шляхам трэба беларусамісьці, каб выйсьці да новага, шырокага жыцьця? Тым-жа шляхам, якім йшлі ў гісторыі і йдуць цяцер да свайго адраджэньня ўсе іншыя народы. Перадусім — гэта шлях асьветы.

Для кожнага народу асьвета ёсьць крыніцаю і падставаю яго існаваньня — духоўнага і матэрыяльнага, соцыяльнага і эканамічнага, грамадзкага і хатняга. За дапамогаю школаў і курсаў рознага тыпу, унівэрсытэтаў, акадэміяў, навукова дасьледчых і спэцыяльных інстытутаў, народных бібліятэк, грамадзкіх культурна-асьветных арганізацыяў, эканамічных, палітычных, сельска-гаспадарчых, коопэратыўных і іншых аб'яднаньняў, таварыстваў і саюзаў, — Народ усьведамляе сабе свае культурныя і эканамічныя магчымасьці, узгадняе свае сілы і сродкі, узбройвае грамадзянства ўсімі здабычамі навукі і тэхнікі, зьбірае сваё нацыянальнае багацьце, падгатаўляе — пераважна з моладзі кадры людзей для службы бацькаўшчыне і супрацоўніцтва з іншымі культурнымі народамі, арганізуе, дысьціплінуе, узгадоўвае грамадзянства і т. д. Такая праца, разьлічаная не на адзін год часу, патрабуе высілкаў усяго народу, бяз розьніцы адукацыі, соцыяльнага палажэньня, паходжаньня, полу, узросту і г. д. Кожнаму знойдзецца ў гэтым будаўніцтве сваё мейсца, свая роля, — кожны

будзе карысным і патрэбным. І тым грунтам, які зьвяжа ўсе гэтыя кадры будуючы сваё шчасьце і шчасьце сваей Бацькаўшчыны людзей, які аб'яднае ў адным імкненьні паасобныя высілкі і ахвяры грамадзянства, дасьць усім зразуменьне агульнага народнага дабра, агульнае нацыянальнае ідэі, — будзе ніштo іншае, як родная мова, як любоў і прывязаньне да роднае зямлі, да роднага народу.

Чым зьяўляецца асьвета для кожнага народу, якую наагул адыадыгрывае яна ролю ў нацыянальным адраджэньні народаў, тым ёсьць яна і для беларусаў. Толькі шляхам асьветы беларус зможа перамагчы цемру, якая была яго ўдзелам на працягу вякоў, — перамагчы, пры багацьці сваей прыроды, сваю заўсёдную беднасьць і галіту, — пры нязьлічоных прасторах зямлі свой адвечны голад і нястатак; — перамагчы сваю адсталасьць і адарваннасьць ад культурнага сьвету, пры найвялікшай блізасьці да вялікіх культурных асяродкаў і шляхоў. І няма лепшага грунту для нашага культурнага, эканамічнага і соцыяльнага адраджэньня, чым які пакінула нам гісторыя, стварыла нам жыцьцё.

Ад веку мы сядзём на сваей зямлі, на якой беларус гаспадарыў ад часу Рагвалода і Усяслава, Гэдыміна і Альгерда, — якая так паліта потам і крывёй беларуса, якая на кожным кроку носіць знакі яго мазольнае працы, хоць і ня маем мы ў гэтых багацьцях свайго ўдзелу. Лічбай нас таксама не малая сямейка. Як яшчэ пісаў Багушэвіч (Мацей Бурачок) у сваей прадмове да „Дудкі беларускай“ ў 1891 г., „нас ня жменька, а з восем мільёнаў — больш, шмат больш не раўнуючы, як жыдоў, напрыклад... бо Беларусь ад Вільні да Мазыра, ад Віцебска за малым чым не да Чарнігава, — Беларусь там, дзе Горадня, Менск, Магілёў, Віцебск, Вільня і шмат мястэчак і вёсак між імі“. Мы маем свой вякамі створаны быт, сваё нацыянальнае аблічча, сваю, асаблівую, сваяадменную куьтуру, — культуру працы, заняткаў, — сваю думку, сваю душу, сваю вялікую чароўную песьню, сваю гісторыю, багатую вялікаю працаю, ахвярамі і змаганьнем за чалавечае жыцьцё, за лепшую долю. Напасьледак, і гэта найважнейшае, мы маем сваю мову, сваё роднае, бязсьмертнае, хаця і загнанае слова:

„Ты крыўцы, няпраўды змагло;
Хоць гналі цябе, накладалі аковы,
Дый дарма: жывеш, як жыло“.

(Я. КУПАЛА. „Роднае Слова“).

Некалі — на працягу 3½ стагодзьдзяў — беларуская мова, так! — беларуская мова была моваю ўрадаваю, афіцыяльнаю, дзяржаўнаю (да 1697 году); ёю шырока карысталіся ня толькі беларусы, але і ліцьвіны і палякі, карысталіся, як кажа польскі дасьледчык, і „w życiu potocznym i w stosunkach urzędowych (Leon Wasilewski, „Litwa i Białoruś“). У беларускай мове, „па руску, літэрамі і словамі рускімі“, г. ё. беларускімі пісаліся дзяржаўныя і ўрадавыя акты, законы, дакумэнты, пастановы судоў і абвесткі магістратаў, „усе лісты, выпісы і позвы“, як загадвае пісаць „пісару земскаму“ найвялікшы юрыдычны і літэратурны памятнік Літоўска-Беларускае дзяржавы — „Літоўскі Статут“, пісаны і друкаваны ў беларускай, а ня іншай якой мове (выданьні 1529, 1566 і 1583 г. г.). Багатая ў мінуўшчыне, бела-

руская мова яшчэ багацейшая цяпер, доказам чаму творы нашых шматлікіх пісьменьнікаў і паэтаў на чале з Янкаю Купалаю, Якубам Коласам і др., і ўся навуковая, гаспадарчая і тэхнічная літэратура, якая зьявілася на прадвесьні нашага адраджэньня, асабліва пасьля 1905 году.

Гэтак, для беларускае народнае асьветы, для яе разьвіцьця і пашырэньня грунт адпаведны ёсьць. І тая культурна-асьветная праца, якая ўжо праароблена ва Усходняй Беларусі, ёсьць найлепшым доказам, што беларускае адраджэньне не зьяўляецца якімськолечы лятуценьнем, мараю, або црыгожаю беларускаю байкаю, створанаю буйнай фантазіяй найбольш гарачых і буйных з ліку беларускіх нацыяналістаў, а зусім рэальным фактам, які мае свае карані ў сьведамасьці беларускага народу, яго няўломнай волі да жыцьця.

„Спаліўшы — па выбразнаму выражэньню паэта — старыя масты", парваўшы „старыя ланцугі", народ магутным высілкам адчыніў „зачыненыя вароты" з царскай няволі і пачаў выходзіць на шырокі простор агульна-людзкае культуры і асьветы, пачаў „узвадзіць будыніну на іншы склад і лад". На новае будаўніцтва жыцьця выйшлі ужо не абраныя толькі адзінкі, як гэта — скажам - было ў XV—XVI стагодзьдзях падчас найвялікшага росквіту старажытнае беларускае културы, калі адраджэнскі рух захапіў толькі нялічную гарадзкую інтэлігэнцыю і часткаю, „вышэйшыя" станы грамадзянства, у хуткім часе здрадзіўшыя свой народ. На новае будаўніцтва сучаснага жыцьця выйшаў увесь спрацаваны народ, усе падставовыя масы народу, з нашага палетку. Сучасны беларускі адраджэнскі рух ёсьць узапраўды шырокі, магутны, стыхійны *народны* рух, спыніць які ня зможа ніякая сіла. Цяпер беларускі народ жывым дасьведчаньнем — уласным і на прыкладзе іншых народаў, жыцьцё якіх пабачыў падчас сусьветнае вайны — дазнаў, што ніхто, як сам і толькі сваімі арганізаванымі сіламі зможа пабудаваць сваё шчасьце, сваю будучыню. Дазнаў, і паклікаў сваіх сыноў „узвадзіць будыніну на іншы склад і лад".

У змаганьні за асьвету асаблівы запал і адданасьць выяўляе наша сярмяжная, працоўная моладзь. Ва ўсіх культурна-асьветных пачынаньнях яна бярэ самы гарачы ўдзел. І ня дзіва, бо яна найбольш зацікаўлена ў здабыцьці асьветы, яна найбольш пакрыўджаная, абойдзеная, а з другога боку, яна найбольш да такога змаганьня вольная, прытарнаваная. Яна заўсёды поўна сьвятым гарэньнем за народную справу, і гэтым агнём запальвае нават старых людзей, „барадачоў". Хто арганізуе бібліятэкі-чытальні? чыім высілкам паўстаюць народныя дамы, закладаюцца коопэратывы, па грошу зьбіраюцца сродкі на выпіску кніжак і газэт, на куплю радыё, дэкарацыяў для сцэны і т. п.? Хто цяжкаю працаю арганізуе спэктаклі, гатовы 5 6 раз і болей пехатою плясьціся за 35 - 40 кілямэтраў у старосттва па дазвол на спэкталь якога з вялікай нецярплівасьцяй і зацікаўленьнем чакае ўся акруга, які для ўсіх будзе запраўдным сьвятам? Хто, каб папасьці на зьезд Т.Б.Ш., за 300 кілямэтраў цягнецца дзе пехатою, ці інакш, наражаючыся і ў дарозе і асабліва ў Вільні на цэлы рад прыкрых спатканьняў? Моладзь ведае, што яна бароніць народную справу, і гэта дае ёй сілы перамагаць усялякія перашкоды. Яна з пагардай адкідвае спробы зьвярнуць яе з абранага шляху. Бо ня можа быць іншага шляху да адраджэньня, як толькі праз асьвету, праз родную школу, праз родную кніжку.

Сваіх мэтаў на культурна-асьветным полі беларускае старэйшае грамадзянства і моладзь імкнуцца — па сіле магчымасьці — дасягнуць пры помачы культурна-асьветных арганізацыяў, з якіх у Зах. Берарусі (пад Польшчай) самай магутнай і пашыранай зьяўляецца Т-ва Беларускае Школы. Гэта ўзапраўды народная ці грамадзкая арганізацыя, якая для культурнай працы зьбірае ўсе найбольш шчырыя, адданыя і сьведамыя адзінкі Не нястача сьведамасьці ці ахвярнасьці грамадзянства, а *выключна вонкавыя прычыны стаялі заўсёды на перашкодзе для разьвіцьця Т Б. Ш.* Ідэалёгія і ўнутраная будова Т. Б. Ш., яго склад і мэтады працы, дазнаныя і выпрабаваныя на працягу шмат гадоў (Т.Б Ш. налічвае амаль 15 гадоў свайго існаваньня), робяць гэтую арганізацыю такою, што яна адна ўзапраўды магла-б аб'яднаць усе жывыя сілы народу. Што Т. Б. Ш, з усіх беларускіх культурна-асьветных арганізацыяў у Польшчы найбольш адпавядае народным імкненьням у кірунку асьветы, сьведчыць праца, якую Т. Б. Ш. прарабіла за некалькі апошніх гадоў, пакуль не пачалося масавае зачыненьне Акружных Упраў і гурткоў Т.Б Ш. На працягу 1926 – 1929 г. г. было заснавана каля 500 гурткоў, з якіх 75% ужо вяло культурную работу на вёсцы. Пры гурткох было адчынена болей 200 народных бібліятэк-чытальняў і болей 100 народных дамоў. Гэта ня выдумка, а рэальны факт. Некаторыя гурткі за ўвесь час свайго існаваньня паставілі больш як па 40—50 спэктакляў кожны, а звычайна няма гуртка, які-бы—пры найвялікшых перашкодах—не зладзіў 3—5 спэктакляў-вечарын. Увесь чысты даход—на карысьць бібліятэкі гуртка. Ёсьць бібліятэкі, маючыя па 1000 і болей кніжак. (Напр. нядаўна зачыненая Сьвіслацкая). Пры некаторых гуртках ня раз былі ладжаны лекцыі, арганізаваны сталыя музыкальныя і вокальныя кружкі ці сэкцыі, вячэрнія курсы для ўзрослых, пастаўлена радыё і т. п. Галоўны-ж высілак Т.Б.Ш. йшоў заўсёды ў кірунку адчыненьня беларускіх школ і ўтрыманьня прыватных, самостойных беларускіх гімназіяў (4). На актыў гурткоў Т. Б. Ш. перадусім трэба запісаць масавае складаньне т. зв. школьных дэкларацыяў на 700 камплектаў. Гэта быў запраўдны магутны народны рух, які напамінаў сабою масавае адчыненьне беларускіх пачатковых школ падчас нямецкае акупацыі і т. зв. Сярэдняе Літвы, калі—па статыстыцы Галоўнае Ўправы Т.Б.Ш.—было адчынена 512 беларускіх школ, з беларускаю выкладоваю моваю, з беларускімі падручнікамі, з вучыцелямі—беларусамі і т. п. Ужо адных гэтых цыфр davолі, каб прызнаць, што ўвесь рух, падняты Т. Б. Ш., мае глыбокія падставы ў сьведамасьці народнай, што гэты рух ня штучны, выпадковы, а запраўдны народны адраджэнскі рух. Ведама наагул, як трудна вывесьці нашага селяніна з халоднае развагі, задумы, асьцярожнасьці, як трудна падбіць яго на новы які крок, асабліва зьвязаны з грашовымі выдаткамі, але калі ў адзін дзень вёска высылае цэлыя соткі людзей з фурманкамі на будову народнага дому, або складае школьныя дэкларацыі, ці зьбірае ахвяры на бібліятэту, дык трудна ня бачыць у гэтым поўнага зразуменьня і сваей культурнай адсталасьці і ўсяе патрэбы асьветы для народу.

Калі шукаць паралеляў Т. Б. Ш. у гісторыі адраджэньня іншых народаў, дык такою сьведамасьцяй і зразуменьнем патрэбы народнае асьветы, — у момант, калі паўстае пагроза дэнацыяналізацыі, Т. Б. Ш. найбольш напамінае чэскую „Школьную Матіцу“, а ў пэўнай меры і польскую „Мацеж Школьную“.

„Школьная Матіца“ заложана групаю чэскіх пісьменьнікаў

у 1880 г. Гэта арганізацыя вельмі прыслужылася ў сваім часе да нацыянальна-культурнага і палітычнага адраджэньня Чэхіі. З дробных ахвяраў чэскага грамадзянства „Шк. Матіца“ зьбірала вялізарныя сродкі, на якія — напрыклад у 1913 годзе — утрымлівала сваім коштам 105 школаў розных тыпаў у самай Чэхіі і 34 школы ў Маравіі і Сілезіі, Апрача таго, „Шк. Матіца“ выдавала і пашырала шмат кніжак у чэскай мове, якія будзілі нацыянальнае пачуцьцё, пашыралі веду і т. п. Колькі Чэхі наагул выявілі ініцыятывы і арганізованнасьці ў галіне асьветы, сьведчыць хоць-бы тое, што ў 1912 г. у аднэй Маравіі існавала 2261 таварыства ці арганізацыі, якія вялі культурную працу (праф. Любаўскі М. Історія западных славян).

У Польшчы, падчас яе няволі, такую-ж ролю для пашырэньня народнае сьведамасьці праз школу, асьвету, адыграла „Macierz Szkolna“, заснаваная ў часе першае расейскае рэвалюцыі 1905 г. (першым старшынёй яе быў ведамы польскі пісьменьнік Гэнрык Сенкевіч). Палякі выкарысталі хвілёвую слабасьць і замяшаньне расейскага ўраду таго часу, і пачалі адчыняць польскія школы і ўводзіць польскую мову да гмінных урадаў і публічных сабраньняў. Усё кіраўніцтва гэтаю справаю ўзяла на сябе „Macierz Szkolna“. Яна налічвала сваіх сябраў ва ўсіх кругох польскага грамадзянства і была запраўднай культурна-асьветнай народнай арганізацыяй. Коштам „Macierzy Szkolnej“ і з яе ініцыятывы ў межах расейскага забору паўстала шмат прыватных школаў—пачатковых і сярэдніх, народных унівэрсытэтаў, бібліятэк і г. д. Хоць „Macierz Szkolna“ хутка была зачынена ўладамі, але яе школьніцтва польскае — таксама і на тэрыторыі Беларусі, чаму мы самы былі жывымі сьведкамі — існавала аж да самае вайны 1914. (З кніжкі prof. d-ra *A. Lewickiego „Zarys Historji Polski“).*

Калі азнаёміцца з адраджэнскім рухам другіх народаў, усюды народная асьвета, побач з эканамічным пад'ёмам і палітычным усьведамленьнем, ёсьць адным з галоўнейшых фактаў адраджэньня. Асьветная праца — гэта народная служба, якая вымагае вялікіх сіл народу, ня толькі моральных, але і матэр'яльных. Гэтая праца ня можа быць толькі нейкай ахвярай, нейкай забавай у вольны час, а сталым грамадзкім абавязкам. Заўсёды памятаць, заўсёды нешта рабіць, заўсёды гарэць. Кожны грамадзянін мае абавязак усьведамляць сваіх цёмных братоў, падымаць ровень народнага жыцьця. Адзіночнымі высілкамі тут мала можна зрабіць. Патрэбна шырокая культура-асьветная арганізацыя—прыкладам „Школьная Матіца“, — якая ахапіла-бы ўвесь народ, сабрала для аднае ідэі — ўсе жывыя сілы грамадзянства і ўсе матэрыяльныя сродкі. Гэтая арганізацыя — такою магло-бы быць у нас толькі Т. Б. Ш. — павінна абвясьціць бязьлітасную вайну бязграматнасьці і малаграматнасьці, вайну нашай адсталасьці і някультурнасьці. У галіне асьветы мы, беларусы заходняе часткі нашае зямлі, маем цяпер такі нязначны minimum, такія невялікія магчымасьці. што выбіцца на лепшую дарогу толькі чакаючы, што прыпадзе нам „з ласкі“, мы ніколі ня выб'емся. Трэба самым браць ініцыятыву ў рукі, і зараз браць, а не чакаць ля мора пагоды.

Перадусім трэба падняць значэньне нашае мовы, асабліва ў школе. Бо чужая школа, незразумелая — гэта недарэчнасьць, нарушэньне элемэнтарных правоў чалавека.

На заканчэньне ўсіх гэтых агульных уваг падамо некалькі практычных рад што да будняў, штодзённай работы на шляху асьветы. Пры ўмовах на Зах. Беларусі ўвесь высілак наш павінен быць скіра-

ваны цяпер на *здабыцьцё школы, праўдзівае беларускае урадавае школы.* Для законнага змаганьня за школу найлепшым асяродкам былі-бы гурткі Т. Б. Ш. Дзе іх няма, трэба, каб паўсталі. Пры гуртках трэба, каб паўсталі ўсюды бібліятэкі, чытальні, вячэрнія курсы для няграматных, лекцыі і курсы для ўзрослых *Асабліва-ж гурткі і ўсё сьвядомае грамадзянства павінны заняцца арганізацыяй хатняга, зашкольнага навучаньня і саманавучаньня.* Гэта наша чарговая, баявая задача. Кожны, хто ўмее чытаць і пісаць, павінен навучыць чытаць і пісаць *пабеларуску* сваіх родных, блізкіх, суседзяў, павінен і сам бязустанку пашыраць свой сьветапагляд, свае навыкі праз чытаньне новых кніжак, газэт і т д. Пашыраньне ў грамадзянстве кніжкі ёсьць другая балючая патрэба нашага жыцьця, на задаваленьне якой не павінны шкадаваць ніякіх сродкаў. Але кніжка рэдка каму ў нас пад сілу, каб купіць яе, дык, будзем купляць беларускія кніжкі грамадою, калектывамі, у складчыну. І наагул усю нашу культурна-асьветную працу вясьці заўсёды толькі згуртаванымі сіламі.

Народная асьвета вымагае ўсяго напружаньня волі, ўсяе сілы імкненьняў і ахвярнасьці грамадзянства. Калі гэтага ў нас хопіць, дык „к новай долі шлях нам ляжа“, бо

„ночка цёмная на сьвеце вечна не пануе“.

*Паляшук.*

---

# Ад нядаўнага мінулага, праз цяжкае сучаснае да сьветлай будучыні.

*(Сьвіслач, Ваўкавыскага павету).*

Гады 1932 і 1933 — гады найактыўнейшай культурна-асьветнае працы беларускае моладзі нашае Сьвіслацкае гміны.

М. Сьвіслач, Дабраволя, Вял.-Грынкі, Раманаўцы, Гарбачы — найгалаўнейшыя асяродкі культурна-асьветнай працы.

Гурткі Т-ва Бел. Школы, існаваўшыя ў гэтых мясьцінах, давалі шырокую магчымасьць беларускай моладзі разгарнуць свае сілы ў дружнай самаахвярнай працы над палепшаньнем долі гаротнага беларуса селяніна і работніка шляхам асьветы і самаадукацыі.

І моладзь не ленавалася. Ладзіла спэктаклі, закладала бібліятэкі-чытальні, арганізоўвала вячэрнія курсы, народныя хоры і г. д., словам клала ўсе свае сілы і здольнасьці ня шкадуючы часу, каб прынясьці магчыма большую карысьць свайму працоўнаму народу.

Сярод цішыні кароткіх летніх начаў можна была часта чуць у вёсцы энэргічныя стукі малатка і сякеры.

Гэта моладзь вярнуўшыся ад цяжкай дзеннай працы на полі, будавала памост для вясковай сцэны.

Моладзь, каждай з памянёных вёсак, не абмяжоўвалася працай толькі ў сваей аколіцы. Тэатральныя сэкцыі выяжджалі часта ў другія вёскі за некалькі кілёмэтраў, каб кінуць прамень сьвятла культуры ў шэрыя масы сваіх братоў-беларусаў.

Час ішоў. Праца кіпела. У месяцы верасьні 1933 году ў часе найактыўнейшай культурна-асьветнай працы адміністрацыйныя ўлады зачыняюць гурткі ў в. Дабраволі і Раманаўцах.

Застаюцца г-кі ў Сьвіслачы, В.-Грынках і Гарбачах. якія прадаўжаюць працаваць далей. Восеньню 1933 году В.-Грынкаўскі гурток ладзіць урачыстае сьвяткаваньне 5-ці летняга юбілею, у якім каля 200 асобаў з ваколічных вёсак з вялікай радасьцю і цікавасьцю бралі ўдзел у сьвяткаваньні 5-х угодкаў г-ка, жадаючы яму доўгага існаваньня і памыснай працы на будучыню.

Аднак нажаль ня споўніліся гэтыя пажаданьні. У лютым 1934 году ўлады раптоўна, неспадзевана зачыняюць Вяліка-Грынкаўскі г-к, а разам з ім і гурток у в. Гарбачы.

Усе дасягненьні культ.-асьв. працы ў пастаці бібліятэк-чытальняў, вячэрніх курсаў і інш. ліквідуюцца. Працуе толькі ў В.-Грынках у пастаці хору былая харавая сэкцыя. На запрашэньне адзінага ў той час ня толькі ў гміне, але і ў павеце Сьвіслацкага г-ка, на Каляды 1934 г. В.-Грынкаўскі хор выступае на іх спэктаклі з беларускім канцэртам, які быў спатканы з вялікай прыхільнасьцяй перапоўненай саляй слухачоў. Трэба адзначыць, што харысты, як хлапцы так і дзяўчаты ня гледзячы ня 22° мароз ішлі з ахвотай за 10 кілёмэтраў да Сьвіслачы, не баючыся холаду і прастуды, сагрэтыя аднэй супольнай думкай ахвярнага служэньня свайму беларускаму працоўнаму народу.

Год 1935. У месяцы верасьні зачыняецца ўладамі працуючы да апошняга мамэнту Сьвіслацкі г-к за „бяздзейнасьць". На ім заканчваецца аканчальная ліквідацыя Т.Б.Ш. на абшары Сьвіслацкае гміны, ліквідацыя цэнных дасягненьняў працы беларускае моладзі ў пастаці бібліятэк з сотнямі кніжак, вячэрніх курсаў і іншых здабыткаў.

Беларуская моладзь нашае гміны мусіла з больлю ў сэрцы паддацца волі бязьлітаснага лёсу, руйнуючага здабыткі яе доўгай культурнай працы.

Аднак трэба сьцьвердзіць што найгалаўнейшы здабытак упартай працы Т.Б.Ш. сярод нашае моладзі ніколі не зьнікне з яе сэрца; гэтым здабыткам ёсьць выпрацаваньне народнае сьведамасьці, пачуцьця абавязку супольнае працы для дабра народу, пачуцьця веры ў лепшую будучыню.

І таму зусім зразумелым ёсьць няпрыхільнае адношаньне тутэйшай моладзі, а перадусім дзе існавалі г-кі Т.Б.Ш., да ўсялякіх польскіх арганізацыяў, стараючыхся ўцягнуць у све рады беларускую моладзь.

Нашая моладзь падчас існаваньня Т. Б. Ш. пераканалася, што толькі свая родная арганізацыя ёсьць найбліжшай да сэрца, што толькі сваё роднае слова найглыбей прамаўляе да душы змучаных жыцьцёвай нядоляй людзей.

І дзеля гэтага нашая моладзь ніколі не пагодзіцца з адабраньнем ад яе магчымасьці працы над роднай асьветай і астанецца вернай сваім ідэалам.

*Сьвіслачанін.*

---

***Споўніце свой абавязак —***

***прысылайце складкі і ахвяры на выдавецтва.***

---

# Пісьмо.

Да Паважнай Галоўнай Управы Т. Б. Ш. у Вільні.

Мы сяляне вёскі Запольле цяпер жывём у разладзьдзі. Хаця народ адны Беларусы, але свайго нічога ня маем: ані кніжак, ані газэт, нават у школах у нас няма ні аднэй лекцыі беларускага, якіх і дзеці нашы нават дамагаюцца, але настаўнікі не даюць, кажучы, што няма беларускіх падручнікаў. Праўда, мы іх знайсьці ня можам.

А гэта дзеля таго, што ня маем свае арганізацыі, а чужой ня прымаем, хаця і настаюць прымусова.

Шкада, нават і моцна шкада таго часу, калі у нас істнавала ТБШ. Тады мы мелі у школе большасьць прадметаў у сваёй мове, бо мелі нават сваю бібліятэку, аркестру, хор, ладзілі прадстаўленьні, дзякуючы чаму нашае ТБШ. с кождым днём расло і багацела.

Пры завешаньні ТБШ ўсё ад нас забралі і ўсё зьнікла.

А цяпер дачуваемся, што ТБШ. па другіх бакох працуе.

Нам гэта вестка, як прамень сонца у канцы цёмнае ночы.

Па гэтаму і мы моцна і доўга дамагаемся адкрыцьця свайго ТБШ, хочам дастаць назад свае скарбы, каторыя без дай рацыі марнуюцца, але ня можам самы дабіцца.

Так што у помач завём с просьбай Галоўную Управу, як сваіх гаспадароў і кіраўнікоў аб вызваленьні ТБШ. у Запольлі.

Чакаем сьпешнае помачы.

З пашанай былое ТБШ. Запольле. 13.I. 1936 году.

Пісьмо падаецца з поўным захаваньнем асаблівасьцяў мовы. Найлепшы мастак не раскажа так аб нашых культурных балячках, як аб гэтым крычыць само жыцьцё. Хто мае вушы і людзкае сэрца, той ня пройдзе міма, каб яно не здрыгнулася аглядаючы такія малюнкі. Аб „дасягненьнях“ на нашай вёсцы ніхто прыгажэй ня скажа як сама вёска. Ёсьць асобы, якія цьвердзяць, што беларусы быццам хочуць, каб іхніх дзяцей вучылі толькі па польску, што беларусы ня маюць народнай сьведамасьці, — між тым, калі уважна прыслухацца да голасу вёскі, то адтуль, як з нейкага падзямельля, нясецца да культурнага сьвету адзіны вокліч: Ратуйце!

Ня маючы даплыву сьвежага культурнага паветра, вёска памалу апускаецца, дзічэе, асабліва гэта адбіваецца на маладым пакаленьні.

Гэтаму цяжкаму стану можа парадзіць толькі свая беларуская арганізацыя, свая родная беларуская школа. Аб гэтым кажа пісьмо із Запольля, аб гэтым кажуць соткі падобных пісьмаў іншых вёсак.

Дух ТБШ, дух беларускай культуры і асьветы, ня гледзячы на ўсе перашкоды, жыве і будзе жыць.



# З Хронікі Т-ва Беларускае Школы

— **Віленскі Цэнтральны гурток,** дзе пераважна працуе студэнцкая моладзь, зьвяртае ўвагу на пазашкольную асьвету на вёсцы. Выезды з лекцыямі на правінцыю зьвязаны з нязвычайнымі труднасьцямі, таму гурток 21.VI.34 г. прымае пастанову рыхтавацца да арганізацыі беларускіх агульнаасьветных курсаў, а 8.X.35 году зацьвярджае плян курсаў. Рассылка курсаў пачалася ўжо ў лютым бягучага году.

Карыстае сяньня з курсаў 67 асоб, у тым ліку дзьве жанчыны. Самастойна выпісываюць 23 асобы, у складчыну 33 і праз арганізацыі 11. Курсанты пераважна земляробы; наймалодшы з іх радз. у 1915 г., найстарэйшы ў 1890. Паводле паветаў найбольш з наваградзкага — 16 асоб, з вялейскага — 11, баранавіцкага — 8, горадзенскага — 7, з іншых па дзьве-тры асобы.

Кіраўніцтва Курсаў выслала першыя дзьве лекцыі ўсім грамадзянам якія прыслалі падпіску, або абяцалі яе прыслаць і таму калі хто з Паваж. Курсантаў не атрымаў курсаў, значыцца або пісьма не дашлі да Кіраўніцтва Курсаў, або курсы не даручаны адпаведнай почтай. Просім паведаміць нас. Наступныя лекцыі не прыслаўшым аплаты высылацца ня будуць.

Згодна з пастановай ураду гуртка з дн. 15.VI.35 г. прыступлена да зьбіраньня ахвяраў на выданьне „Летапісу" Т-ва.

Лекцыя „Аб змаганьні за беларускую школу", якую меў чытаць старшыня гуртка В. Склубоўскі дня 21 кастрычніка 1935 г. была забаронена Віленскім гарадзкім Старастай. На забарону Галоўная Ўправа падала скаргу Віленскаму Ваяводзе, які аднак прыхіліўся да пастановы Гарадзкога Старасты і лекцыя ўсё-ж не адбылася.

24.XI.35 г. была прачытана лекцыя гр. Р. Шырмай на тэму: „Значэньне літэратуры".

— **Гурток у в. Задубеньне,** Крывіцкае гм., Вялейскага пав. заложаны 20.XI.33 году з агульным лікам 15 сяброў, з якіх адзін выступіў. Першы Арганізацыйны Сход адбыўся 25.II.34 г. У склад Управы Гуртка выбраны: на Старшыню — Мікалай Грышкевіч, на Сэкрэтара Янка Ярмаковіч, на Скарбніка — Міхась Пястун.

Дня 28.X.34 г. у Задубеньні адбылося прадстаўленьне, на якім было больш 150-ці чалавек. Пастаўлены былі: „Лекары і лекі" і „Суд".

На Агульным сабраньні 4.XII.34 г. пастанавілі: 1) залажыць бібліятэку і на загадчыка выбраны гр. Мікалай Грышкевіч, 2) залажыць пры Гуртку Драм.-Сэкцыю, на кіраўніка выбраны Кастусь Грышкевіч, 3) прынята пастанова выпісываць і пашыраць беларускую літэратуру.

Дня 28.IV.35 г. было зладжана прадстаўленьне у в. Задубеньне. Ставілі: „Паўлінку" і „Мікітаў лапяць". Нягледзячы на тое, што была дрэнная пагода і перашкаджала мяйсцовая вучыцелька, каторая рознымі спосабамі старалася сарваць нашае прадстаўленьне, народу было толькі, што амаль зьмясціла стадола, у якой адбывалася прадстаўленьне. Гэтая вучыцелька хочачы навясьці нас на страты, з групкай адураных маладнякоў старалася паставіць у гэты-ж самы дзень і польскае прадстаўленьне, аднак ей гэтага зрабіць няўдалося, бо яе артысты, зразумеўшы свой брыдкі паступак, іграць у гэты дзень адмовіліся.

На Агульным Сходзе 30.VII.

1935 г. былі перавыбары Управы, на якім аднагалосна пастанавілі пакінуць Управу старую.

Дня 22.IX.35 году, было пастаўлена прадстаўленьне ў вёсцы Пузырох, на якім было адыграна: „Боты“ і „Зьбянтэжаны Саўка“. Моладзь да гэтае імпрэзы аднястлася вельмі прыхільна. Само прадстаўленьне, як заўсёды, адыграна вельмі добра, дзякуючы кіраўніку драм. сэкцыі К. Грышкевічу, і якое мае вялікую папулярнасьць. Да гэтага часу перашкоды маем выключна з боку мясцовай вучыцялькі.

Дня 31.XII.35 г. адбылася публічная лекцыя аб літэратуры, чытаная гр. Р. Шырмаю.

Дня 7.I.36 году адбыўся спэктакль у Задубеньні. Ставілі „Выбары старшыні“ і „Модны шляхцюк“.

За цэлы час у касу паступіла 106 зл. 65 гр.; расходу 105 зл. 90 гр.

— **Сьвіслацкі** гурток, Ваўкавыскага павету, з а ч ы н е н ы на пачатку верасьня 1935 г. „за бяздзейнасьць“. Гэта быў апошні гурток у Ваўкавышчыне, які яшчэ працаваў, калі ня меў перашкодаў, інтэнсыўна: ладзіліась спэкталі і канцэрты. Праўда, апошні спэкталь мінулым летам быў забаронены Ваўкавыскім Старастай, але затое увесь чаз бойка функцыянавала бібліятэка гуртка, якая налічвала болей 1000 томаў кніг і некалькі сот сталых абанэнтаў. Уважаючы матывы Ваўкавыскага Старасты за нясслушныя, Галоўная Управа паслала скаргу Беластоцкаму Ваяводзе дня 14-IX-1935 г. Адказу на сваю скаргу да гэтага часу ня мае.

— **В. Дуброва** каля Маладэчна. Першы беларускі спэкталь у нас адбыўся ў 1921 г. З таго часу да 1927 году беларускіх спэктакляў ня было. Летам 1927 г. вучні Радашкоўскай Беларускай Гімназіі зладзілі спэкталь на карысьць Аддзелу ТБШ у Радашковічах. Спэктакль адбыўся ў п а д в а л е  п а р о в а г а  м л ы н у. Наступны спэктакль тыя-ж вучні ладзілі 5-VIII-1928 году на карысьць таго-ж Аддзелу ТБШ, але тагачасны Маладэчанскі Стараста забараніў ставіць „Моднага шляхцюка“ і дэклямаваць некаторыя вершы, а войт Ракоўскай гміны адмовіўся аштэмпляваць білеты, што дало повад паліцыі забараніць прадажу білетаў; прышлося пускаць па падпісным лістам. У 1929 і 1930 годзе былі зладжаны два спэктаклі Бел. Інст. Гасп. і Культуры. у в. Крыніцы. Ад таго часу ніякіх. спэктакляў ня было да 1934 г. ні ў Дуброве, ні ў акалічных вёсках.

Галоўная Управа падала заяву на спэктакль у Дуброве на 15-IV 1934 году; хоць з вялікімі труднасьцямі, але спэктакль ўсё-ж адбыўся.

28-III-1934 г. быў заложаны гурток ТБШ, але паліцыя арганізацыйны сход палічыла за нелегальнае сабраньне і некаторым асобам вытачыла судовую справу. Натуральна суд усіх апраўдаў, бо гэта быў легальны сход арганізацыі, на якім былі толькі сябры з білетамі. Гурток быў зачынены. Галоўная Управа падала скаргу праз Старасту Віленскаму Ваяводзе. Аднак Стараста скаргу зьвярнуў назад. Тады Галоўная Управа 12-VI-1934 г. за № 85 зложыла рэкурс беспасярэдня ў Віленскае Ваяводзтва. Рэкурс быў прыняты, але адказу на рэкурс не атрымана ніякага.

У Дуброве заложаны польскія арганізацыі: „Stowarzyszenie Młodzieży Polskiej“, „Związek Strzelecki“ і „Kółko Rolnicze“.

— **У навагродзкім** павеце у першай палове 1934 года заложаны гурткі у весках: Балотцы, Клінцы, Новая Весь, Падкасоўе,

Пабрэзе, Задвор'е, І Краскоўская Гара. Павятовы Стараста адмовіў запісаць іх да рэестру. Усе гурткі зачынены.

— **В Шэні.** Пружанскага павету. 20 сакавіка 1934 году Галоўная Управа залажыла гурток у в. Шэнях Гурток зачынены на самым пачатку. Маемасьць старага Шэнеўскага гуртка, зьліквідаванага ў 1932 г, прадана гміне, грошы ў суме 23 зл высланы ў Галоўную Управу. Бібліятэка гуртка была пераказана на перахаваньне Пружанскай гміне, бо стараста не згадзіўся на просьбу Галоўнай Управы перадаць яе на часовы перахоў сябру ТБШ. Бібліятэка вельмі цэнная, у якой беларускі аддзел быў асабліва багаты. Апрача таго былі кнігі ў мовах польскай, расейскай і украінскай. Але-ж перахоўвалась яна і нішчылась у арышце пры гміне, які сяляне называюць „халодніцай".

# Культурныя навіны.

— **Вечар беларускай паэзіі і песьні.** 15 сакавіка ў салі Вілен Ун-ту Беларускі Студэнцкі Саюз і Т-ва прыяцеляў Беларусаведы ладзяць вечар беларускай паэзіі і песьні. У праграме вечару: даклад „Аб маладой беларускай паэзіі", дэклямацыя і аўтодэклямацыя твораў: Арсеньневай, Бярозкі, Васілька, Ільяшэвіча, Машары і Танка. На заканчэньне солёвыя сьпевы і канцэрт хору Р. Шырмы.

— **Новы здабытак у беларускую харавую літэратуру** даў кампазытар К. Галкоўскі, які напісаў тры песьні на мяшаны хор спэцыяльна для вечара паэзіі. Гэта першы выпадак, калі словы нашых паэтаў у Зах. Беларусі паложаны на музыку. Вершы: „Марш маладых„—Машары, „То не пчолка зьвініць у гаёчку" — Васілька і „Касец" Танка,—у нядзелю 15 сакавіка віленскае грамадзянства пачуе ў выкананьні хору. „Марш маладых" па характару музыкі запраўды маршгымн моладзі, „Касец" магутны марш працы, які кідае „сталёвыя ўдаль адгалосы", а „То не пчолка зьвініць у гаёчку" цудоўная мініятурная сымфонія, дзе між іншым, на фоне хора бяз слоў, выступае з песьняй дзяўчына, каторую госьця-вясна галубіць шэптам дубравы, асыпае пяшчотамі сонца, разьвявае ветрам косы,—адным словам, дае такое „спачуцьце і ласкі", „якіх так мала ёсьць у людзей".

Усе тры песьні вытрыманы ў беларускім народным характары.

— **Кампазытар А. Грычанінаў** апрацаваў дзесяць беларускіх народных песень для солёсьпеву і фортэп'яна. Як заўсёды ў такога кампазытара, і гэтыя 10 песень зроблены папулярна і з глыбокім мастацкім пачуцьцём праўды і захаваньнем народнага калёрыту.

— **Максім Танк** піша вершавую поэму „Нарач", дзе дае малюнкі з жыцьця і працы наднарачанскіх рыбакоў.

— Польскі кампазытар Ст. Казура напісаў опэру „Powrót", у каторай музыка пераплятаецца беларускімі народнымі матывамі. Нават опэра канчаецца беларускай песьняй „Ой пара дамоў пара, ужо вячэрняя зара", якую народ пяе па беларуску вяртаючыся з поля.

**Усіх сябраў, якія пішуць пісьмы з просьбамі аб залажэньні гуртка, просім ВЫРАЗНА ПІСАЦЬ АДРЭС і падаваць асобу НА КАГО пасылаць карэспанд.**

# ЗАПІСВАЙЦЕСЯ

**на Беларускія Агульнаадукацыйныя Курсы, якія вядзе ад 1-га лютага 1936 году Віленскі Цэнтральны Гурток Т-ва Беларускае Школы.**

Курсы будуць абымаць наступныя прадметы:

1) Гісторыю Беларусі—10 лекцыяў.

2) Агульную географію Эўропы і пазаэўрапэйскіх краін — 10 лекцыяў.

3) Географію Беларусі – 5 лекцыяў.

4) Палітычную эканомію (асновы грамадзкай гаспадаркі) — 5 лекцыяў.

5) Гісторыю Беларускай літэратуры — 10 лекцыяў.

6) Космографію (навука аб зорах і плянэтах)—5 лекцыяў.

7) Натуральную гісторыю зямлі (паверхня, слаі зямлі і іх паўставаньне, расьліны і зьвярыны сьвет і іхняе разьвіцьцё).

8) Гісторыя культуры і цывілізацыі.

Курсы пачынаючы ад 1936 году будуць вясьціся стала кожную зіму ад 1 лістапада да 31 красавіка. У сёлетнюю зіму курсы пачнуцца 1-га лютага, будуць трываць тры месяцы (да 31 красавіка) і абымуць толькі чатыры першыя прадметы:

1) Гісторыю Беларусі, 2) Агульную Географію, 3) Географію Беларусі і 4) Палітычную эканомію.

МЭТА КУРСАЎ: даць і паглыбіць агульную веду аб бацькаўшчыне і сьвеце, павялічыць тэтым самым грамадзкую вартасьць адзінак, карыстаючых з курсаў.

Лекцыі будуць уложаны папулярна, даступна, каб з курсаў мог карыстаць кожны, хто ўмее чытаць па беларуску.

Лекцыі будуць друкавацца на павелячы. Курсы будуць вясьціся бясплатна. Толькі на пакрыцьцё коштаў (папера, пошта, кошты друку і інш.) трэба прыслаць 2 зл. месячна, значыць 6 зл. у тры месячныя раты за цэлы сёлетні курс (30 лекцыяў).

Мы ведаем, што нават гэтая невялікая плата на пакрыцьцё коштаў, будзе ў цяперашнія цяжкія часы многім не пад сілу. Каб гэтаму зарадзіць і зрабіць Курсы даступнымі для ўсіх, заклікаем да выпісваньня лекцыяў у складчыну. Асабліва карыснымі будуць курсы для існуючых гурткоў ТБШ і іншых культ.-асьветных арганізацыяў у працы пашырэньня веды сваіх сяброў.

Лекцыі будуць рассылацца поштай больш меньш па дзьве на тыдзень. Запісываючыся на курсы трэба прыслаць плату за першы месяц і наступныя інфармацыі аб сваёй асобе: 1) Імя і прозьвішча, 2) Мейсца і год нараджэньня, 3) Прафэсія (чым займаецца), 4) Дакладны адрас. Калі лекцыі выпісваюцца цэлай групай, дык трэба падаць дакладныя дадзеныя аб усіх асобах з групы і на каго слаць лекцыі.

ГРАМАДЗЯНЕ! Помніце, што веда гэта магутнае аружжа ў змаганьні за лепшую будучыню, і таму выкарыстайце вольны час, які ёсьць зімой у вёсцы, каб праз Курсы здабыць і пашырыць сваю веду.

Нам, беларусам, тым больш трэба здабываць веду саматугам, бо родная школа, у якой кожны сын культурнага народу дастае гэтую веду,—для нас тымчасам недаступная роскаш. Помніце, што ніхто нам не паможа, калі мы самі сабе не паможам. Часовы адрас для карэспандэнцыяў: Вільня, вул. Савіч № 13, кв. 4, Курсы. Віктар Войтэнька.

Вільня ў сьнежні 1935 году.

Урад Віленскага Цэнтральнага Гуртка.

Выдавец: Т-ВА БЕЛ. ШКОЛЫ. Адказны Рэдактар: Ф СТЭЦКЕВІЧ.

Друк. Я. Баеўскага. Вільня, Татарская вул. 13.